


Другакласнікі са Старога Ляўкова. Фота Я. Цэлушэцкага.

№ 50 (1156) ГАЗЕТА БЕЛАРУСКІХ ДЗЯЦЕЙ У ПОЛЬШЧЫ 16.XII.1979 г.

Л. Танкевіч

## ДЗЯДУЛЕВЫ ЦАЦКІ

*Абляцела ўсіх навіна,*
*Што дзед лепіць цацкі з гліны.*
*Лепіць конікі і качкі,*
*Свісткі-пеўнікі, сабачкі.*

*Развязаў Міхась насоўку —*
*Паказаў сваю кароўку.*

*А ў Міколкі на далоні*
*Красаваўся сівы конік.*

*Толькі Стась не меў нічога*
*І таптаўся ля парога.*

*Дзед пазнаў яго згрызоту:*
*— Пачакай, — сказаў. А потым*
*Гліны ўзяў малы кусочак*
*І зрабіў яму свісточак.*

## ВЕТРАГОН

*Юрка-непаседа,*
*Вечны ветрагон.*
*Хоць пара абедаць,*
*Не чакай яго.*

*Назбіраў парэчак —*
*Не замкнуў варот.*
*Выпусціў авечак*
*Проста ў агарод.*

*А затым па дрэвах*
*Лазіў, як Тарзан,*
*Зачапіў нагою,*
*Перакінуў збан.*

*А калі у ботах*
*Скочыў у ваду,*
*Кажа, што у лужу*
*Яны самі йдуць.*

## З ДРУГОГА БОКУ

Пасля работы я прыйшоў у прадшколле забіраць Святланку дадому.

— Татка! — узрадавалася дачушка. — А мы сёння малявалі домікі. Нашы малюнкі ляжаць на шафе. Паглядзі.

Пакуль Святланка апраналася, я гартаў лісты з малюнкамі. І што цікава — ні адзін малюнак не паўтараў другі. Нарэшце знайшоў я і Святланкіну працу. Гэта быў вялікі дом з вокнамі, з дахам і комінамі, з якіх ішоў дым.

Дачушка ўважліва сачыла за выразам майго твару.

— Добры дом атрымаўся, — пахваліў я Святланку. — Ёсць у ім дах, вокны, з комінаў дым ідзе. Значыцца, у гэтым доме жывуць людзі?

— Жывуць, татка.

— І многа людзей? А як жа яны туды ходзяць? У доме няма дзвярэй.

Малая азадачана паглядзела на свой малюнак і раптам весела ўсклікнула:

— Татка, ды дзверы ж засталіся з таго боку! А я домік намалявала з другога боку, дзе няма дзвярэй!

**А. Дзік**



# ЧЫТАЕМ і пішам

Зіма. Дні цяпер зусім кароткія. Хутка цямнее. Мала часу на гульні. Але ў доўгі вечар кніжку пачытаць можна.

Рана ідзе тата на работу. Рана ўстае мама. І Валі таксама час уставаць. Нельга ў школу спазняцца.

На перапынку мы выходзім з класа. Дзяжурны адчыняе вокны. Вяртаемся мы ў праветраны, чысты клас.

**Н. Спадарэнка**

# Злоснік

Сёння я доўга разглядаў сябе ў люстэрку. Раней ніколі не думаў — прыгожы я ці непрыгожы. А цяпер бачу: усё ў мяне нейкае не такое. Ну што гэта за нос — маленькі і востры. Шчокі — як памідоры. А вушы! Як лапухі. Але больш за ўсё мне не падабаюцца губы! Нейкія тоненькія шнурочкі.

Вось гэтыя губы і прымусілі мяне задумацца, які я ўдаўся. Сяджу ўчора на ўроку малявання. Усе малююць сваіх суседзяў па парце, а я забыўся алоўка і кручуся. У Наталкі — мы з ёй з першага дня разам сядзім — браць алоўка не хачу. Неяк не выпадае, хоць і яна і прапанавала, таму што перад гэтым я не даў ёй вастрылку-караблік. Праўда, Наталка не пакрыўдзілася, яна наогул рэдка крыўдзіцца, і сама нікога не крыўдзіць.

Дык вось, малюе яна мой твар, а мне не сядзіцца на месцы: кручуся, каб падгледзець, што там у Кірылы і Алёшкі выходзіць. Да таго часу разглядаў, пакуль самому не захацелася маляваць Наталку, бо ў яе ж каса даўжэзная, найдаўжэйшая ў класе, ды не толькі ў класе, але ва ўсёй школе. Як бы гэта прапанаваць далікатна Наталцы вастрылку, а ў яе папрасіць аловак? І раптам яна сама прашаптала:

— Шыю скруціш. Перастань круціцца. Вось табе аловак, і, калі ласка, не перашкаджай, бо я папсую твой партрэт. Каб я адразу здагадаўся, што Наталка нічога кепскага не мела на думцы! Яна ж магла не ведаць, што азначае на хлапечай мове „папсаваць партрэт“! Але я не паспеў як след падумаць, за мяне падумаў нехта вельмі злосны: „Так? Мне пагражаюць? І хто? Гэтае дзеўчаня, якое я па просьбе... кожны дзень праводжу дадому, каб ніхто не пасмеў пацягнуць яе за касу, а зімой, каб ніхто не пасмеў кінуць у яе снежкай!!!“

У гэтую хвіліну я зусім забыўся, што мяне ніхто не прасіў ахоўваць Наталку, проста мы хадзілі дадому разам, бо жылі побач, ды мне і самому хацелася так... А! Аб чым цяпер гаварыць, калі першае Наталкіна крыўднае слова дасталося мне!

Я не мог супакоіцца і адразу вырашыў, што ўсе дзяўчынкі несправядлівыя, і таму няма што з імі сябраваць і наогул. Што „наогул“, я пакуль яшчэ не ведаў, але так вырашыў. Прыслухаўся, ці задаволены той, хто цяпер пачаў за мяне думаць. Не! Наадварот. Яшчэ цяжэй мне зрабілася. Я, быццам не хочучы, штурхнуў Наталку. Яна якраз малявала губы. Штурхнуў і — чырк-чырк — на маім партрэце, трошкі лявей кірпатага носа паявіліся дзве крывыя лініі. І адразу выраз твару зрабіўся злосны-злосны. Наталка спачатку раззлавалася, а потым паглядзела на мяне, глянула на партрэт і засмяялася:

— Глядзі, які падобны на цябе! І на паперы злоснік, і ў жыцці ты — злоснік!

— Чаму гэта? — пытаюся здзіўлена. — Чаму гэта я злоснік?

— А таму! А таму... — пачала Наталка і разгубілася. — А таму, што ты ўчора перадражніваў мяне, а пазаўчора не прызнаўся маме,

што атрымаў двойку. А яшчэ таму, што ў цябе губы тонкія.

Ой, як хацелася стукнуць яе! Але я прыпомніў, што наш трэнер катэгарычна забараніў нападаць на слабейшых. Я стрымаўся, хоць той, хто за мяне думаў раней, злосна буркнуў.

Пасля ўрокаў пацягнуўся я дадому. Адзін. Дома я адразу пайшоў мыцца. Быццам хацеў перамыцца на прыгожы ці хоць бы на нармальны твар. Хутка выцерся і пайшоў у пакой. За акном якраз пачуўся умоўны сігнал — хлопцы



звалі на вуліцу. Мне было не да іх...

А прачнуўшыся сёння раніцай, падумаў, што ўсё гэта мне прыснілася. Але глянуў у люстра, — не, такі не прыснілася. Губы быццам яшчэ танчэйшыя зрабіліся.

Пайшоў у клас, нізка-нізка апусціўшы галаву. Здавалася, што на мяне зараз усе будуць глядзець і смяяцца.

І раптам заўважаю: на мяне ніхто не глядзіць, усе тоўпяцца ля дошкі, дзе ў нас заўсёды вывешваюць аб'явы і лепшыя малюнкі. Да мяне падбег Кандрат.

— Ха-ха! — прывітаў ён мяне традыцыйна і, як мне здалося, трохі насмешліва. — А ты бачыў, як цябе Наталка намалявала?

Я так разгубіўся, што нават не супраціўляўся, калі Кандрат пацягнуў мяне да дошкі. Там вісела штук дзесяць партрэтаў, але свайго я не ўбачыў.

— Ён тут вось, у цэнтры! — крыкнуў Кандрат.

Я пачаў прыглядацца. Проста перада мной вісеў партрэт зусім незнаёмага вясёлага хлапчука. Ён глядзеў на мяне і быццам пытаўся: „А што, прыгожы я? І добры? І шчыры?“

„Чаго хвалішся, — адказваю я яму. — Не такі ты ўжо і добры. Хлопец як хлопец. А што добры, дык па твару не заўсёды можна меркаваць. Зразумеў?“ Але хто ж гэта такі шчаслівчык? Чытаю подпіс: „Такім дабрадушным, ветлівым і сімпатычным убачыла свайго сябра-аднакласніка Міцю Мікалаюка Наталка...“

— Ты не вельмі злуйся і не здзіўляйся, — чую я ля самага вуха знаёмы шэпт. — Такім, як ты ўчора выйшаў, ты амаль ніколі не бываеш, толькі часам, калі робіш нешта няправільнае. Часцей ты бываеш такі! — паказала Наталка на мой партрэт.

— Бачыш, аб чалавеку можна меркаваць — добры ён ці не, калі ведаеш, як ён адносіцца да іншых людзей... — прагаварыў Кандрат.

А я ад радасці ледзь колам не прайшоўся. І той, хто думаў замест мяне і падказваў, каб штурхнуў Наталку, зусім раззлаваўся, праціўна так зашыпеў і знік. Ой! А можа, той „нехта“ і быў злоснікам? І цяпер я назаўсёды ад яго пазбаўлюся. Думаю, што так яно і ёсць.


ПАГЛЫБЛЯЙ

СВАЕ ВЕДЫ


## ПЧОЛЫ

З пчоламі чалавек знаёмы вельмі даўно. Мабыць, яшчэ першабытны чалавек адшукоўваў у дуплах дрэў гнёзды дзікіх пчол і ласаваўся мёдам. Некалькі тысячагоддзяў назад людзі пачалі па-гаспадарску выкарыстоўваць пчол: пачалі рабіць вуллі, зрабілі гэтых насякомых амаль хатнімі.

Але не задумваліся аб тым, як жа ж усё-такі пчолкі збіраюць мёд. Як? Вядома ж: пералятаюць з кветачкі на кветачку, збіраюць салодкі нектар, і з яго атрымліваецца мёд.

Так, гэта праўда. Але тут узнікае мноства пытанняў. Напрыклад, такое: колькі пчолам трэба працаваць, каб сабраць кілаграм мёду? Вось кажуць: працавіты, як пчолка. Але мала хто ўяўляе сабе сапраўдную працавітасць пчол. Каб атрымаць адзін кілаграм мёду, пчала павінна сабраць нектар з дзевятнаццаці мільёнаў кветак! Вядома, адна пчала не можа абляцець столькі кветак: на кілаграм мёду працуе шмат пчол. Але і ў адной нямала работы: за адзін дзень рабочая пчала наведвае ў сярэднім сем тысяч кветак!

Ды гэтыя ж кветкі трэба яшчэ і знайсці!

На шчасце для пчол, яны ўмеюць пераказаць адна другой, дзе ежа, колькі яе і нават якая яна.

Размаўляць пчолы могуць пафрознаму. Гавораць яны і на мове запахаў. Пчала-разведчыца прыляцела ў вулей і разам са здабычай прынесла з сабой пах кветак. Не агульны пах кветак, а іменна тых, з якіх была сабрана здабыча. Вядома, пчолы не ведаюць назваў кветак, яны не гавораць словамі: „Вось на гэтых кветках ёсць нектар". Але ў зобіку пчалы ёсць трошкі нектара. Прыляцеўшы ў вулей, яна час ад часу выдзяляе яго. І па запаху нектара іншыя пчолы пазнаюць, дзе пабывала іх сяброўка. Акрамя таго, тонкі і далікатны пах кветкі захоўваецца і на целе пчалы, прычым захоўваецца даўжэй, чым на іншых прадметах і іншых насякомых.

Але прынесці ў вулей пах кветак пчолы могуць толькі тады, калі гэты пах ёсць на кветках. А ёсць жа нямала кветак, якія не пахнуць. Так, кветкі без паху, але нектару ў іх можа быць нямала. Што ж тады рабіць? У пчол ёсць спосабы, каб пераказваць весткі і аб гэтых кветках.

Толькі некалькі дзесяцігоддзяў назад на канцы брушка пчалы была адкрыта невядомая дагэтуль залоза. Залоза гэтая выпрацоўвае пахучую вадкасць. Але выдзяляе яе не заўсёды, а толькі тады, калі трэба нешта зазначыць. Напрыклад, вясною пчолы сваім пахам зазначаюць вуллі. Запах гэты даволі моцны і служыць пчолам маяком, калі тыя вяртаюцца дадому. Тым жа пахам пчолы-разведчыцы зазначаюць і непахучыя кветкі.



ВЕСЕЛА



















**Пасяваем разам**

## ГАМА

**Словы А. Шабуневіча**
**Музыка М. Лагуна**

У Пеці поўная ўдача:
Ён будзе мець па спевах „пяць“...
І сёння дома мама ўбачыць,
Што сам мог Пеця запісаць.
Прыпеў:
До, рэ, мі, фа, соль, ля, сі, до.
До, сі, ля, соль, фа, мі, рэ, до.

Як мама ў Пецеў сшытак гляне,
Наш Пеця вокам не міргне.
Ён перад мамай смірна стане
Ды на ўвесь голас запяе.
Прыпеў.

І днём і ноччу марыць Пеця,
Каб музыкантам добрым стаць,
Таму у школе часта дзеці
Над Пецем любяць жартаваць.
Прыпеў.

# Вясёлы куточак

* ✲ *

Настаўнік злуецца на вучня:

— Чаго ты стаіш каля мяне, ці ж ты не бачыш, што я з дырэктарам размаўляю?

— Калі мама мне казала, каб я заўсёды вас слухаў!..

* ✲ *

Сустрэліся два сябры, заядлыя веласіпедысты.

— Ведаеш, — кажа адзін, — я ўчора заплаціў 100 злотых штрафу, бо не было званка пры веласіпедзе.

— А колькі я заплаціў бы, — кажа другі, — у мяне ж наогул веласіпеда няма!

* ✲ *

На беразе возера сядзіць рыбак. Міма ідзе дзядзька і пытаецца:

— Ну як, бяруць?

— Яшчэ як! — адказвае рыбак. — Толькі на хвіліну задрамаў, а ўжо гадзінніка няма!

* ✲ *

— Пазыч мне пяць злотых?

— А можа лепш сто?

— А чаму сто?

— Бо я не магу табе адмовіць такой малой сумы.

* ✲ *

— Афіцыянт, — кліча наведвальнік рэстарана, — гэты абед не можна есці. Паклічце кіраўніка.

— Няма сэнсу. Ён таксама яго есці не будзе.

# Пазнаёмімся

БССР, 220082, г. Мінск-82, вул. Д. Сердзіча, 22/18, кв. 77. Таня Пятрушына, вучаніца 7 класа.

* ✲ *

БССР, 220060, г. Мінск-60, вул. Р. Люксембург, 170, кв. 50 Сяргей Касюкоў, вучань 7 класа.

* ✲ *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. К. Лібкнехта, 86, к. 2, кв. 61. Ірына Пастушонак, вучаніца 8 класа.

* ✲ *

БССР, 220014, г. Мінск-14, вул. Разінская, 81, кв. 1. Алена Сержант, вучаніца 9 класа.

* ✲ *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Волаха, 8, кв. 42. Саша Стружынскі, вучань 3 класа.

# Адгадайка



**Намалюй фігуру, не адрываючы алоўка ад паперы і не паўтараючы ніводнай лініі.**

**Адрас рэдакцыі: „Зорка“, 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1.**